# БЕЛАРУС НА ЧУЖЫНЕ

BELARUSIAN ABROAD

BIEŁARUS NA ČUŽYNIE

Беларускі штомесячнік ў Лёндане. Заснаваны ў 1947 г. Адноўлены ў 2009 г.

сакавік 2010 №4 (46)


## НАВІНЫ




**25 сакавіка 2010 года – 92-я гадавіна абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі**

### Фотавыстава «Беларус Замежны»

У памяшканьні Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру праходзіць фотавыстава «Беларус замежны». На выставе прадстаўленыя архіўныя фотаздымкі беларускіх эмігрантаў сярэдзіны 20 стагодзьдзя і пачатка 21 стагодзьдзя ў народных строяў. Архіўныя фотаздымкі прадстаўленыя Бібліятэкай і музэем імя Ф. Скарыны, сучасныя фотаздымкі зробленыя фатографам Сашай Белавокай. Выстава створаная пры дапамозе стыпэндыята Брытанскай Рады Алены Агарэлышавай. Выстава будзе адчынена да 20 красавіка.

### Дзень матчынай мовы ў Лёндане

У канцы лютага Англа-беларускае таварыства правяло Дзень беларускай мовы. Адбыўся конкурс чытаньня вершаў сярод дзяцей і дарослых, у якім прызы атрымалі беларуска-цыганскі паэт Вальдэмар Калінін і актывіст беларускай дыяспары ў Брытаніі Караліна Мацкевіч.

### Івонка Сурвілла дала інтэрвію ВВС

У пачатку сакавіка на хвалях BBC Radio 4 прагучала перадача Governing from Away, прысьвечаная ўрадам у выгнаньні. У якасьці самага старэйшага з існуючых урадаў у выгнаньні была названая Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла дала інтэрвію для перадачы.

### Фотарэпартаж з Marian House

На сайце http://belarusians.co.uk/ зьявіўся фотарэпартаж зь перабудовы Marian House. Паводле плянаў, завяршэньне рэканструкцыі Дома і пабудовы беларускай царквы можа скончыцца ўжо ў 2010 годзе.

### Зьявіўся сайт PUBB

У інтэрнэце зьявіўся сайт Прафэсійнай уніі беларусаў Брытаніі: http://pubb.org.uk/

Прафэсійная унія беларусаў у Брытаніі (PUBB) - гэта Лёнданскі клуб беларусаў-прафэсіяналаў. PUBB быў утвораны ў 2009 г., каб спрыяць сувязям паміж беларускімі прафэсіяналамі, якія працуюць у Брытаніі. Група зьбіраецца штоквартал і на асобныя мерапрыемствы. Калі вы жадаеце далучыцца да PUBB, калі ласка зьвяжыцеся зь дзеючым членам клюба, каб атрымаць запрашэньне, ці напішыце на адрас mail@pubb.org.uk.

## АНОНСЫ ПАДЗЕЯЎ

### Сьвяткаваньне Дня волі, прэзэнтацыя кнігі Н. Гардзіенкі пра ЗБВБ

Калі: 17/04/2010-18/04/2010

Дзе: Беларускі дом, 52 Penn Road, London, N7 9RE

Афіцыйнае сьвяткаваньне Дня Волі Згуртаваньнем Беларусаў Вялікай Брытаніі сёлета адбудзецца з спазьненьнем, але будзе адметным. Сьвяткаваньне будзе прымеркаванае да прэзэнтацыі новай кнігі Натальлі Гардзіенкі, прысьвечанай гісторыі ЗБВБ. Прэзэнтацыя заплянаваная на 17 красавіка 2010 г.
Упершыню за доўгі час сьвяточныя мерапрыемствы пройдуць у памяшканьні Беларускага дома ў Islington, які адчыніць свае дзьверы пасьля рамонту.
На сьвяткаваньне чакаюцца важныя госьці з замежжа.

## АНОНСЫ ПАДЗЕЯЎ (працяг)

**Малебен і абед з нагоды Дня волі**

Калі: 28/03/2010, 11:45

Дзе: Беларускі рэлігійна-культурны цэнтар, 39 Holden Road, London N12 8HS

Запрашаем усіх беларусаў – каталікоў і праваслаўных – на Малебен за беларускі народ з нагоды Дня волі. Мерапрыемства адбудзецца ў Вербную нядзелю, 28 сакавіка, адразу пасьля сьвяточнага набажэнства з асьвячэньнем вербных галінак. Просьба па магчымасьці прыходзіць на ўсю службу (на 10.30) і прыносіць з сабою ежу і напоі для супольнага пачастунку.

## АБВЕСТКІ

**Беларускія набажэнствы**

Беларускія грэка-каталіцкія набажэнствы адбываюцца ў Беларускім рэлігійна-культурны ў нядзелю – а 10:30 раніцы і штодня а 8:00 і 18:00. Па заканчэньні нядзельнага набажэнства – невялікае беларускае чаепіцьце. Усе жадаючыя сардэчна запрашаюцца.

Беларускія праваслаўныя набажэнствы адбываюцца па папярэдняй дамоўленасьці па адрасе Holy Innocents' Church, Paddenswick Road, London W6 0UB (м. Ravenscourt Park). Кантакт: 020 76099982 (сп-ня Алена Сенька).

Рэгулярныя набажэнствы Ўкраінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вялікай Брытаніі адбываюцца ў Катэдральным саборы Перамяненьня, 1a Newton Ave, Acton, London W3 8AJ. Тэл. 020 899 246 89, (протаярэй Яўген Стасюк, uaocingb@hotmail.com )

**Шукаецца рэгент для беларускага хору**

Існуе ініцыятыва з прыкладна шасьці чалавек стварыць у Лёндане беларускі хор. Шукаем адзінадумцаў і чалавека з музычнай адукацыяй, які мог бы быць кіраўніком хору. Просім кантактаваць з рэдакцыяй **БНЧ**.

**Дапаможам Сяргею Вітушку выдаць кнігу**

Беларуская Нацыянальная Памяць, арганізацыя беларусаў у Польшчы, зьбірае ахвяраваньні на выданьне кнігі Сяргея Вітушкі, аднаго зь лідараў легендарнай Талакі. У выніку хваробы сп. Сяргей згубіў зрок. Але ён ня здаўся і зараз падрыхтаваў кнігу казак, якая будзе цікавая як дзецям, так і дарослым. Агульны кошт выданьня складае каля 4 тысяч эўра. Па стане на 3 сакавіка было сабрана 750 злотых.

Па падрабязнасьці, калі ласка, зьвяртайцеся на http://bielarus-np.livejournal.com/

## КАРЫСНЫЯ РЭСУРСЫ

belarusians.co.uk – "Беларусы ў Вялікабрытаніі", інфармацыйны блёг

skaryna.org - Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лёндане

pubb.org.uk – Прафэсійная унія беларусаў Брытаніі

anglobelarus.org.uk - Англа-беларускае таварыства

groups.google.com/group/Belondon - Рассылка для беларусаў у Лёндане

community.livejournal.com/belorusy_uk - Суполка брытанскіх беларусаў у ЖЖ

belarusdigest.com - Belarus Digest, дайджэст беларускіх навінаў у міжнароднай прэсе, вядзецца беларусамі зь Лёндану і ЗША

Суполкі на Facebook: *Anglo-Belarusian Society, Belarusians in the UK*

Суполка на Вконтакте.ru: *Belarusians in the UK ‡ Беларусы ў Вялікабрытаніі* (vkontakte.ru/club14078415 )

**РЭДАКЦЫЯ**
Алесь Чайчыц
Яраслаў Крывой
а. Сяргей Стасевіч
bnc@bielar.us